# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1209) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 29 КРАСАВІКА 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Селянін.* *Фота В. Волкава.*

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# БЕЗ СТОМЫ

— Калі сказаць, што мая вёска Погіры, што на Слонімшчыне, жывілася і дыхала камуністычнымі ідэямі, гэта будзе чысцейшай праўдай. Душой вёскі былі ячэйкі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі. А нашым духоўным правадыром быў не хто іншы, як сам Ігнат Дварчанін — погіравец, любімец усяго нашага сяла. І гэта мы за парадай Дварчаніна заснавалі ў сяле нелегальную народную беларускую школку, на занятках вывучалі родную мову, творы беларускіх пісьменнікаў, спявалі беларускія рэвалюцыйныя песні. Праўда, праз некалькі тыдняў паліцыя школку разагнала, а гаспадыню тае хаты, дзе адбываліся заняткі, абклала вялікім штрафам, але ўсё ж мы з тых заняткаў вынеслі шмат каштоўнага. Ставілі мы многа беларускіх п'ес, і якраз у хаце Дварчаніна! Чаго толькі мы не прадстаўлялі! І „Боты“, і „Доктар і лекі“, і „Мікітаў лапаць“, і „Збянтэжаны Саўка“, ды ўсяго і не прыпомніш.

Так, тое, што ўспамінае **Пятро Іосіфавіч Варабей** — гэта жывыя вобразы настойлівага змагання працоўных Заходняй Беларусі з санацыйным прыгнётам. Да актыўнага ўдзелу ў гэтай барацьбе яго прывяло само жыццё. Ён нарадзіўся сіратою, у некалькі тыдняў пасля смерці бацькі ў 1914 г., які загінуў на фронце Першай сусветнай вайны недзе пад Коўнам. Калі Пятру было два гады, на сухоты памерла маці. І пайшоў ён бяздольнай сцяжынкай круглага сіроцтва ад цёткі да дзядзькі, ад дзядзькі да дзеда. І таму кожнае шчырае слова пра людское шчасцейка знаходзіла ў яго сэрцы прытулак. А пасеяць гэтае залатое зерне было каму.

Дзеда ў адной з рабочых дэманстрацый у Петраградзе так знявечылі казакі, што і на той свет пайшоў ён калекам. Дзядзька хадзіў у паходах славутай Конарміі Будзённага, цётка працавала на вядомым сваёй рэвалюцыйнасцю петраградскім Пуцілаўскім заводзе, слухала і бачыла Леніна, удзельнічала ў дэманстрацыях. І яны не шкадавалі часу і не скупілі стараннясў, каб перадаць свае ўражанні і запаветныя думы маладым.

Ужо 14-гадовым хлопчыкам, толькі што закончыўшым пачатковую школу, П. Варабей уступіў у камсамол і быў выбраны сакратаром погіраўскай ячэйкі КСМЗБ. У 1934 годзе ён уступіў у КПЗБ.

— Памятаю, недзе ў 1930 годзе арыштавалі нас чалавек 12. Спачатку трымалі ў арыштце ў Дзятлаве, а потым рашылі перавезці ў турму ў Навагрудку. Каб правучыць „бальшавікоў“ і настрашыць „бальшавіцкую“ ваколіцу, вяло нас, скаваных кайданамі па двое-трое, аж 15 паліцыянтаў, спецыяльна цераз самыя баявыя вёскі. І „лекцыя страху“ санацыйных чыноўнікаў абярнулася ва ўрачыстую дэманстрацыю насельніцтва ў гонар камуністаў. Людзі выходзілі з хат, віталі нас, жанчыны плакалі, мужчыны лаялі паліцыянтаў, дзяўчаты кідалі нам кветкі пад ногі. Памятаю, быў тады цудоўны і барвовы беларускі чэрвень...

Пятру было тады 16 год і суд не засудзіў яго турмою, аддаў пад пільны нагляд паліцыі, з якога ён не выходзіў аж да 1939 года. Дзейнічаў ён як сакратар партыйнай арганізацыі і быў членам Дзятлавіцкага райкома КПЗБ. Нават у войска ўзялі яго як „падазронага ў камунізме“ з гадавой адтэрміноўкай. Трапіўшы ў вайсковую часць у Плоцку, ён зараз жа знайшоў сувязь з польскімі камуністамі і ўвайшоў у „тройку“ КПП, якая дзейнічала ў войску.

Ажаніўся П. Варабей з сяброўкай па барацьбе, Юліяй. У іх нарадзілася дачушка. Але жонцы дэфензіва адняла здароўе на допытах, бо Юлія дзейнічала як сакратар ячэйкі КСМЗБ. Памерла яна на сухоты.

У верасні 1939 г. П. Варабей адразу актыўна ўключыўся ў грамадскую дзейнасць: у рабоча-сялянскім валасным камітэце і ў рабочай гвардыі. Потым савецкія ўлады накіравалі яго вучыцца ў Беласток. Пасля працаваў ён у савецкіх органах у Навагрудку. Трагічны чэрвень 1941 г. застаў яго ў Пінску. Калі наблізіўся фронт, ён быў накіраваны ў Куйбышаў. У пачатку верасня славутай „дарогай жыцця“ прабраўся цераз Ладажскае возера ў акружаны Ленінград.

— Праслужыў я ад пачатку і да самага канца блакады Ленінграда ў спецыяльнай часці, якая займалася выкрываннем і ліквідацыяй фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў. Сказаць, што служба была цяжкая — гэта значыць нічога не сказаць. Мае сябры або гінулі ў барацьбе, бамбардзіроўках або паміралі. Я выжыў мо дзякуючы таму, што ў мяне вялікая ўнутраная дысцыпліна: ні кроплі гарэлкі, ні адной папяросы! Я не памятаю ніводнай з тае тысячы начэй, калі мне ўдалося хоць раз праспаць разуўшыся і распрануўшыся...

Пасля вайны П. Варабей вярнуўся на сваю родную Гродзеншчыну. Атрымаў адукацыю. Доўгія гады працаваў кіраўніком павятовага аддзела культуры ў

(Працяг на стар. 4)





**БЕЛАРУСЫ**

*Нас катавалі, распіналі*
*На дыбах, плахах і крыжах.*
*Мы з нежывымі ўваскрасалі*
*З вялікай помстай у вачах.*
*На рубяжах святла і ценяў,*
*На пакалечанай зямлі*
*Мы ўзнімаліся з каленяў,*
*Не паміралі мы — жылі!*
*Спявалі, плакалі ўголас*
*Сярод галечы і балот.*
*Нібы прыбіты градам колас,*
*Да сонца браўся мой народ.*
*Адкуль у нас такая сіла,*
*Магутная, як крыгалом?*
*Нас і палолі, і касілі,*
*Цапамі войнаў малацілі,*
*А мы расцём, а мы жывём!*

**Алег Салтук**

## ...І ЎСПОМНІМ БЫЛЫЯ ГАДЫ

КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

Уладзімір Шарала і яго жонка Кацярына, якія цяпер жывуць у Беластоку, тады былі жыхарамі Відава, што каля Бельска.

У пачатку ліпеня 1941 года пасля абеда Кацярына Шарала з суседкай Юліяй Белаказовіч заўважылі, што ў нязжатым яшчэ збожжы знаходзяцца два савецкія салдаты, якія звярнуліся да іх: „Цёценькі, дайце хлеба“. У той час у вёсцы былі немцы. Гэтыя жанчыны ўвялі салдат у стадолу, накармілі іх, а пасля пераапранулі ў цывільнае ўбранне. Паходзілі яны з далёкай Уфы, а прозвішчы іх Васіль Абушаў і Уладзімір Звер'еў.

Праз нейкі час да Шаралаў прыйшлі дзве савецкія жанчыны з мужчынам Іванам Афанасьевічам Верашчагіным. Быў ён пабіты, падпухшы. Удалося яму ўцячы з лагера савецкіх ваеннапалонных. І тут знайшоў ён прытулак і апеку. Жыў ён у Шаралаў да красавіка 1942 года. Верашчагін хутка пазнаёміўся з актывам Відава і з актывам суседніх вёсак. Сярод гэтага актыву даспявала думка аб утварэнні антыфашысцкага камітэта, які б арганізавана кіраваў барацьбой супраць ворага. І ў студзені 1942 года ў Бельску ў доме Кардзюкевіча на Крывой вуліцы адбыўся арганізацыйны сход антыфашысцкага камітэта, у склад якога ўвайшлі і Уладзімір Шарала, і яго брат Васіль Шарала.

У той час Уладзімір Шарала працаваў дарожным тэхнікам пры пабудове шашы Бельск-Орля. І таму меў ён непасрэдны кантакт з людзьмі навакольных вёсак, якія мусілі вазіць каменне.

Уладзімір Шарала атрымаў ад антыфашысцкага камітэта заданне: устанавіць колькасць савецкіх афіцэраў і салдат, якія тады знайшлі прытулак у гаспадароў многіх вёсак. І ён хутка частку іх устанавіў. У Спічках было 16 салдат, у Відаве — 8, у Парцаве — 5, у Вульцы — 5, у Кашалях — 4. Пры падрыхтоўцы мясцовага насельніцтва была магчымасць арганізаваць партызанскія атрады.

Затым Шарала атрымаў новае заданне: арганізаваць запасы прадуктаў, зброі і лякарства. У сакавіку жонка Уладзіміра Шаралы, Кацярына, атрымала муку на хлеб з млына ў Бельску, што на Бранскай шашы, дзе начальнікам быў немец. Даставілі муку браты Уладзіміра Шаралы Іван і Васіль (Іван працаваў на млыне машыністам).

Кацярына Шарала з жонкаю Верашчагіна прыступіла да пячэння хлеба.

Працяг на стар. 4

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### НОВЫ АДРАС „ХУТКАЙ ДАПАМОГІ“

Велізарны медыцынскі комплекс, роўны па плошчы тысячакватэрнаму жылому дому, прыняты ў Мінску дзяржаўнай камісіяй Міністэрства аховы здароўя БССР.

Гэта адна з першых у краіне спецыялізаваных бальніц „Хуткай дапамогі“, якая мае ўласны стацыянар на 800 ложкаў. Удзень і ўночы будуць несці тут службу ўрачы самых розных спецыяльнасцей. На ўзбраенні ў іх — устаноўкі высокачастотнай электрахірургіі, рэнтгенаўскія апараты з электронна-аптычнымі ўзмацняльнікамі адлюстравання і яго тэлевідэазапісам, прыборы радыёізатопнай дыягностыкі, баратэрапіі і іншая навейшая тэхніка.

Для выездаў па выкліку ўкамплектавана сто брыгад, многія з якіх — спецыялізаваныя.

Аснашчэнне сістэмы стацыянарамі павышае аператыўнасць і якасць урачэбнага ўмяшання пры экстранных выкліках.

### „ЭЛЕКТРОННАЯ“ АПТЭКА

Электроннай тэхнікай аснашчана аптэка, якая адкрылася ў Мінску. Фармацэўт, вывучыўшы рэцэпт і праверыўшы вызначаную дазіроўку, дае наведвальніку замест квіта жэтон, нумар якога паведамляецца электроннаму прыбору. У назначаны час гэты нумар загараецца на табло, устаноўленым у фае: заказ выкананы. Калі пацыент спазніўся, звесткі аб заказе паступаюць у памяць электроннай машыны. Кліент можа атрымаць інфармацыю на пульце двухбаковай сувязі.

### *У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**510 гадоў назад**

3.5.1469 нар. Н. Макіявелі, італьянскі мысліцель, дзярж. дзеяч, пісьменнік.

**460 гадоў назад**

2.5.1519 пам. Леанарда да Вінчы, італьянскі жывапісец, скульптар, архітэктар, інжынер, вучоны. Заснавальнік мастацтва Высокага Адраджэння.

**160 гадоў назад**

5.5.1819 нар. С. Манюшка, польскі кампазітар. Стваральнік нац. класіч. оперы.

**35 гадоў назад**

5.5.1944 пры камандаванні Польскай Арміі ў СССР пачаў дзейнічаць Польскі партызанскі штаб.

* * * * * * * * *

*1.5.1909 пецярбургская „Ніва“ пісала: Усё жыццё Усходу складаецца з ланцуга загадак, якія не маюць лагічных рашэнняў. Устанаўліваючы канстытуцыю, младатуркі тут жа аднавілі старыя драконскі закон супраць друку, і пры абмеркаванні законапраекта ліберальны галава младатуркаў, прэзідэнт парламента Ахмед-Рыза-Бей, не дапусціў ніякіх пярэчанняў і крытыкі. Канстытуцыя без свабоды друку і нават без свабоды парламенцкага слова — адзін прывід.*





*Помнік-магіла на вышыні 215,5.*

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БЕЛАРУСЬ!**

# ПАМЯЦЬ АБ ГЕРОЯХ

Раніцай над пасёлкам Леніна стаяў асенні туман. Як тады, 35 гадоў таму назад, халоднымі мокрымі воблакамі снаваўся ён сярод жылых катэджаў, вісеў над асфальтнымі вуліцамі, узбіраўся на ўзгоркі і спаўзаў у даліну Мірэі.

Толькі тады не было яшчэ тут ні гэтых домікаў, ні асфальту, а цяпер няма ўжо... Мірэі, якая, быццам верная палюбоўніца, апаясвала свой каханы пасёлак. Расправіліся з Мірэяй меліяратары. Асталася ад яе звычайная канава і бліскучыя вочы невялікіх сажалак-вадасховішчаў, на берагах якіх гамоняць качкі і гусі.

Доўга стаяў я на тратуары між гасцініцай, пасялковай амбулаторыяй, школай-дзесяцігодкай і школьным інтэрнатам ды ўпарта ўзіраўся ў гэты імглісты краявід, а думкі, вядома, адплывалі да гэтай, цяпер ужо гістарычнай, крывавай раніцы 12 кастрычніка 1943 года.

У баявым загадзе камандзіра I польскай дывізіі пяхоты імя Тадэуша Касцюшкі, генерала **Зыгмунта Берлінга** на гэты дзень ставілася салдатам наступнае заданне:

*„...I польская дывізія пяхоты прарывае ўмацаванні праціўніка між вёскамі Паўзухі і вышынёй 215,5, а затым рашучым ударам выходзіць на рубеж рэчкі Пнеўка...“*

Толькі гэта не краязнаўчая экскурсія.

*„...Вораг зарыўся, закапаўся ў зямлю, абсталяваў разгалінаваную сетку акопаў і траншэяў. На заходнім берагу Мірэі знаходзяцца дзве вышыні: адна — 215,5, яна крыху бліжэй вёскі Трыгубава, і 217,6 — ля вёскі Паўзухі... Хто мае ў руках гэтыя вышыні, хто сядзіць за балоцістай далінай Мірэі, таму хопіць некалькіх кулямётаў, каб панаваць над усялякім рухам у зоне ракі на абодвух яе берагах. А на вышынях сядзелі немцы.“*

Гэта з кніжкі А. Срогі *„Леніна — пачатак дарогі“*. І толькі тут, на месцы, у Леніна, гледзячы на гэтыя вышыні, што крутымі адхонамі зыходзяць у зялёную даліну, толькі тут можна ўцяміць усю складанасць баявога задання польскіх воінаў.

**(Працяг на стар. 5)**



*Першы помнік польскім воінам, загінуўшым у Леніна.*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Беларускае чытальніцтва ● З пленума ГП БГКТ ● Візія свету Анатоля Корзуна з Гайнаўкі ● Як цяпер жывуць людзі ў Леніна ● Літаратурная старонка ● Майстар з Сакоў ● Найпрыгажэйшая дзяўчына з Гарадка ● Весткі з Бельска, Боцькаў, Гайнаўкі, Міхалова, Васількова, Шудзялава, Заблудава, Белавежы, Кожына, Нараўкі, Крываціч, Чаромхі, Стараберазова, Нарвы ● Модны сілуэт ● Чаму Кастусь кожны тыдзень фарбуе агароджу свайго саду ● Песня „День Победы“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 28 IV** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VIII Nauka o czł. 12.45 TTR. Geogr. 13.25 Hod. zwierz. 14.05 Radzimy rolnikom. 14.15 Radar. 14.30 Obiektyw. 14.50 Dziennik. 15.00 Orbita. 15.30 Latarnia Czarnoksięska. 16.00 Film Latarni: Milczenie jest złotem. 17.40 Szanujmy wspomnienia. 18.30 Mecz I ligi p. nożnej. 19.00 Przygody Bolka i Lolka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Życie na gorąco — ser. 21.50 Dziennik. 22.05 Spotkanie z gwiazdą: Drupi.

**Niedziela 29 IV** — 6.50 TTR. 7.20 Hod. zwierz. 7.50 Now. w domu i zagr. 8.15 Emerytury dla rolników. 8.25 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Barwy walki — dramat woj. pol. 12.15 Dziennik. 12.30 Rolnicze rozmowy. 13.00 Tylko w niedzielę. — 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Dama Kameliowa — cz. II ser. ang.

**Poniedziałek 30 IV** — 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT (mat.) 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 17.00 10 minut — teletur. 17.10 Zakazane piosenki — film pol. 19.00 Wodnik Szuwarek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV. A. Arbuzow „Gdy wraca młodość”. 21.40 Raporty w sprawie dzieci niczyich. 22.05 Dziennik. 22.20 Nigdy więcej.

**Wtorek 1 V** — 8.45 Pr. dnia. 8.50 Trans. Urocz. Pierwszomajowych w Moskwie i Sofii. 9.30 Pr. rozr. 9.50 Trans. Urocz. Pierwszomajowych w Warszawie. 13.00 Pr. muz. 14.20 „Śląsk” w Meksyku. 15.00 Pr. dla dzieci. 15.30 Opowieść o Walerym Wróblewskim. 16.00 Melodie filmu pol. 17.00 Czarny Tulipan — film kostiumowo-przyg. fr. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ja Klaudiusz — odc. IV ser. ang. 21.30 „Mazowsze” — pr. muz. 22.10 Świadkowie. 22.30 Przeboje mistrzów.

**Środa 2 V** — 9.00 Dla kl. VII Chem. 10.00 Fiz. 11.05 Hist. 12.45 TTR. Fiz. 13.25 Chem. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT (naucz. pocz.). 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Entliczek-Słowniczek. 16.55 Dom i my. 17.10 P. nożna. POLSKA—HOLANDIA. 19.00 Cypisek, syn rozbójnika Rumcajsa. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Tabor wędruje do nieba — dramat obycz. ZSRR. 22.35 Dziennik. 22.50 Kształt słowa.

**Czwartek 3 V** — 6.00 TTR. Fiz. 6.30 Chem. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.05 Dla kl. VII. J. pol. 13.25 TTR. Fiz. 14.00 Geogr. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Decyzje piętnastolat. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.55 Skarbiec. 18.20 Poligon. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Las. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Columbo — ser. ameryk. 21.45 Pegaz. 22.30 Dziennik. 22.45 W minutę po premierze.

**Piątek 4 V** — 6.00 TTR. Fiz. 6.30 Geogr. 9.00 Dla kl. V Geogr. 10.00 Dla kl. VIII Wych. ob. 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 12.45 TTR. J. pol. 13.25 Biol. 15.15 Red. szk. zap. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT (psych.). 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Magazyn motor. 17.50 W 22 minuty dookoła świata — film dok. 18.15 Wyrok — ser. CSRS. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30—23.25 Magazyn Studia Gama. — 22.35 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 27 IV** — 8.05 Filmy anim. 9.05 Film fab. 14.55 Hokej. Kanada — Szwecja. 18.00 Czechosłowacja — ZSRR. 20.35 Panorama film.

**Sobota 28 IV** — 8.50 Film fab. 18.10 Film fab.

**Niedziela 29 IV** — 13.35 Film fab. 15.45 Filmy anim. 16.45 Nie do wiary. 19.00 Film muz. 20.35 Pr. estrad.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: **субота 12.05 — 12.25 (UKF)**

## КІНО

**Białowieża** Lokator — fr. 1—2 V. Republika Użycka — jug. 3—4 V. Akwarele — pol. 5—6 V.

**Bielsk Podl.** Te niebezpieczne drzwi na balkon — radz. 30 IV. Trzy kobiety — USA 2—3 V. Kobieta pod presją — USA 4—5 V. Obca — radz. 6 V.

**Czeremcha** Słodko i gorzko — czes. 1—2 V. Gorąca linia — pol. 5—6 V.

**Czyże** Czas miłości i nadziei — czes. 1—2 V. Golachi — wł.-fr. 2—6 V.

**Gródek** Rollercoaster — USA 5—6 V.

**Hajnówka** Żywi i martwi — radz. 30.IV. Szósty lipca — radz. 1—2 V. Człowiek z karabinem — radz. 3—4 V. Szli żołnierze — radz. 5—6 V.

**Michałowo** Każdy ma swoje piekło — fr. 1—2 V. Mandingo — USA 3—4 V. Sam na sam — pol. 5—6 V.

**Milejczyce** Szał — ang. 5—6 V.

**Narew** Fortepian w powietrzu — węg. Mandingo — USA 2—6 V.

**Narewka** Nie wychylać się — jug. Znaki Zodiaku — pol. 2—6 V.

**Rajsk** Antyki — pol. Powrót straconych — jug. 2—6 V.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% drozsza od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 822. Nakład 7700 egz. S-2

# ДОБРЫЯ ГАСПАДАРЫ—ЧЛЕНЫ ПАРТЫІ

Арганізаванне спецыялістычных гаспадарак у Гайнаўскай гміне распачалося тры гады таму назад. У канцы мінулага года было іх 58, а сёлета лік іх павялічыцца на 35.

Шматлікія спецыялістычныя гаспадаркі вядуць вопытныя земляробы, якія з'яўляюцца членамі ПАРП. Да іх належаць: Мікалай Галёнка, с. Фёдара, Васіль Галёнка, с. Яна, Мікалай Лаўрыновіч, с. Дзмітрыя, Пётр Галёнка, Ян Галёнка, с. Рыгора, — усе з Пасечнікаў Вялікіх, Ян Трафімюк, с. Яна, са Старога Беразова, Сяргей Кучка з Махнатага, Пётр Сегень з Трывежы, Анастасія Балтрамюк з Навасадаў і іншыя.

У вёсцы Пасечнікі Вялікія ў партыі 8 чалавек, пяць з іх спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі. Сакратаром ПОП з'яўляецца Аляксей Лаўрыновіч, былы ІІІРавец, добры гаспадар, солтыс.

Мікалай Галёнка, сын Фёдара, спецыялізуецца ў гадоўлі быдла. Усяго за тры гады пабудаваў сучасную абору — механізаваную, з падключанай вадою (ёсць аўтаматычныя паілкі), з абсталяванай даілкай. У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на 320 тысяч злотых.

Васіль Галёнка, сын Яна, мае новую абору, падключаную да яе ваду, пашарню, сіласы. Гадуе 24 штукі малочнага быдла. Дзяржаве прадае сельскагаспадарчых прадуктаў на 210 тысяч злотых у год.

Мікалай Лаўрыновіч, сын Дзмітрыя, супольна з сынам Ляонціем (у яго сярэдняя адукацыя) пачаў спецыялізавацца ў авечкагадоўлі. Гадуе ён 120 авечак. Ён мадэрнізаваў сельскагаспадарчыя будынкі. У мінулым годзе прадаў дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на 493 тысячы злотых.

Пётр Галёнка пабудаваў новую хлеўню. Спецыялізуецца ў свінагадоўлі (мае дзесяць свінаматак). Дзяржаве прадае сельскагаспадарчых прадуктаў на 300 тысяч злотых у год.

Ян Галёнка, сын Рыгора, спецыялізуецца ў гадоўлі малочнага быдла. Мае 22 штукі быдла. Стаяць яны ў механізаванай аборы. Падключана да яе вада. На месцы ёсць кладоўка на корм. У 1978 годзе жывёлавод прадаў дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на 210 тыс. зл.

У вёсцы Пасечнікі Вялікія, апрача спамянутых гаспадароў, 12 іншых спецыялізуецца ў жывёлагадоўлі. У гэтым годзе шэсць наступных земляробаў пачне спецыялізавацца ў выбранай галіне сельскай гаспадаркі. Сёлета Пасечнікі стануць вёскай спецыялістычнай у жывёлагадоўлі. Тут 43 гаспадаркі. Гаспадары Пасечнікаў Вялікіх і Малых у 1977 годзе прадалі дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на 6 мільёнаў 78 тысяч злотых і ў 1978 годзе — прадалі іх на 6 мільёнаў 933 тысячы злотых.

Добрыя гаспадары і члены партыі з іншых вёсак гэта: Ян Трафімюк, сын Яна, са Старога Беразова, які гадуе звыш 20 малочных кароў і прадае дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на 352 тыс. зл. у год, Сяргей Кучка з Махнатага (сакратар ПОП, солтыс), які развівае гадоўлю малочнага быдла, Пётр Сегень з Трывежы, які ў мінулым годзе пабудаваў абору і пастаянна павялічвае гадоўлю малочнага быдла (у мінулым годзе прадаў сельскагаспадарчых прадуктаў на 194 тыс. зл.) і Анастасія Балтрамюк з Навасадаў, якая гадуе парасят у кааперацыі з СКР і прадае дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на 340 тысяч злотых у год.

**Я. Целушэцкі**

(Працяг са стар. 1)




Сушылі яго, пакавалі ў мяшкі і перапраўлялі партызанам.

У красавіку 1942 года Верашчагін, які жыў у Шаралаў, разам з 12 савецкімі салдатамі, добра ўзброеныя, забяспечаныя адзеннем і харчамі, пайшлі ў лес. Далейшыя групы партызанаў былі ў стадыі арганізацыі.

Антыфашысцкі камітэт інтэнсіўна працаваў. На чарговым пасяджэнні, якое адбылося ў хаце Шаралаў у Відаве пад кіраўніцтвам Хведара Савіцкага, былі абмеркаваны далейшыя заданні руху супраціўлення.

— Мы далей адпраўлялі фурманкамі ў Белавежскую і Лядскую пушчу сухары партызанам, кашу, лекі і бялізну, — успамінае Уладзімір Шарала. І вось наступіла няўдача. Немцы перахапілі адзін транспарт, накіраваны партызанам. А тут яшчэ і другое няшчасце — адзін з членаў антыфашысцкага камітэта папаўся немцам, не вытрымаў здзекаў і выдаў многіх удзельнікаў руху супраціўлення. 2 жніўня 1942 года арыштавалі немцы Уладзіміра Шаралу, а таксама яго братоў Івана і Васіля і шмат іншых асоб. Усіх разам было 38, іх завезлі на здзекі ў Белавежу ў катоўню, якая знаходзілася ў будынку пошты.

— Не расказаць, не апісаць, што немцы рабілі з арыштаванымі. Білі да непрытомнасці, калолі, цкавалі сабакамі, якія разрывалі людзей. Цяжка паверыць, што так можа здзеквацца чалавек над чалавекам. Кожны дзень кагосьці выводзілі і вешалі на дрэва каля царквы, якая знаходзіцца ад пошты ў некалькіх дзесятках метраў.

Уладзімір Шарала ні ў чым не прызнаўся. Праз тры тыдні нязносных здзекаў, звольнілі яго. Ён быў патрэбны немцам пры пабудове шашы.

Вярнуўшыся, Уладзімір Шарала далей садзейнічае партызанскаму руху. Ён як сувязны збірае звесткі пра ворага, ходзіць на сувязь з прадстаўнікамі партызанскіх атрадаў і партызанскіх груп са згрупавання „У імя Радзімы". Неаднойчы ён і яго жонка стаялі на краі гібелі, смерць злавесна заглядала ім у вочы. Аднак засталіся яны ў жывых, дачакалі вызвалення. У першых днях жніўня 1944 года ў Відаве сабралася амаль 100 партызан з паасобных атрадаў, якія прыбылі падзякаваць і Шаралам, і насельніцтву гэтай мясцовасці за дзейсную, самаахвярную падтрымку ў барацьбе з ворагам. Радасць, смех, музыка, песні раздаваліся ў Відаве некалькі дзён.

Уладзімір Шарала пасля вызвалення адразу ўключыўся ў барацьбу за ўстанаўленне народнай улады. Цяпер ён на заслужанай пенсіі. Узнагароджаны Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы і дзесяццю іншымі ордэнамі і медалямі.

**Міхась Хмялеўскі**

## Найактыўнейшыя солтысы

Сярод 23 солтысаў Нараўкаўскай гміны найбольш актыўнымі і шматгадовымі з'яўляюцца Мікалай Кабаць з Міхнаўкі і Аляксандр Засім з Тарнопаля.

Мікалай Кабаць (нар. у 1905 г.) з Міхнаўкі з'яўляецца членам ПАРП з 1948 года. Абавязкі солтыса выконвае ўжо 34 гады. Ён мабілізуе мясцовае насельніцтва на грамадскія пачыны. Салэцтва Міхнаўка з'яўляецца перадавым у гміне ў выкананні планаў кантрактацыі і продажу дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі, зборкі грошай на НФОЗ, куплі мінеральных угнаенняў і т.д. Мікалай Кабаць выконвае абавязкі грамадскага апекуна. За сваю плённую грамадскую дзейнасць для дабра сваёй вёскі і гміны ён узнагароджаны сярэбраным знакам „Заслужаны для Беласточчыны".

Аляксандр Засім з Тарнопаля функцыю солтыса выконвае ад 1962 года. Ён актыўны грамадскі дзеяч, член ЗБоВіД і ЗСЛ. Вёска Тарнопаль у часе яго працы дабілася найвышэйшых прадукцыйных вынікаў у гміне. Можна сказаць: які солтыс, такая вёска. Аляксандра Засіма ад 1958 па 1976 год выбіралі радным. За грамадскія поспехі ваяводскія ўлады ўзнагародзілі яго сярэбраным знакам „Заслужаны для Беласточчыны".

**(яц)**



## Рост Дубровы

За няпоўныя дваццаць гадоў Дуброва стала амаль 5-тысячным мястэчкам. Не знайсці ўжо нават слядоў нядаўняга мінулага, калі была яна вёскай. Зараз тут стаяць мураваныя дамы, прасторныя крамы, пралеглі шырокія прыгожыя вуліцы.

Пра свой горад вельмі дбаюць яго жыхары (у мінулым годзе вартасць удзелу ў грамадскіх пачынах кожнага з іх акрэслена на 429 злотых). У 1978 годзе дзякуючы таму былі зроблены новыя скверыкі і зялёныя насаджэнні. Сёлета будзе разбудавана прадшколле і зроблены дапаможныя работы для пабудовы каналізацыі жыллёвага пасёлка пры гарадскім стадыёне. У далейшым чакае вырашэння праблема забеспячэння горада вадою з водаправода. Толькі палавіна жыхароў карыстаецца з водаправода і адна трэцяя — з каналізацыі. Не менш пільнай справай з'яўляецца пабудова ачышчальні камунальных сцёкаў. Недалёка плыве Бебжа, адна з самых чыстых рэк у нашай краіне. Яе неабходна берагчы. А ўсё яшчэ сюды трапляюць сцёкі з мясцовай малачарні. Таму пабудова ачышчальні прадбачана яшчэ ў бягучай пяцігодцы.

Цяпер у Дуброве распачалася пабудова двух чарговых жылых будынкаў у рамках кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва. Гаспадарчым спосабам будуюцца першыя ў гэтым горадзе яслі. Шырока разгарнулася індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва.

**(яц)**

(Працяг са стар. 1)

## БЕЗ СТОМЫ

Навагрудку, між іншым, удзельнічаў у абсталяванні музея Адама Міцкевіча. Затым быў на савецкай і партыйнай працы ў Баранавічах і Мінску. Ад 1975 года ён заслужаны персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння, жыве ў Мінску. Ён выхаваў чацвёра дзяцей, трое з іх закончыла вышэйшыя школы, а найменшая дачка, Людачка, вучыцца ў Медыцынскім інстытуце. У яго ўжо ёсць унукі, і Пётр Іосіфавіч імі вельмі ганарыцца.

Але пенсія не абазначае для яго бяздзейнасці. Ён займаецца вельмі актыўнай грамадскай працай, сустракаецца ў школах з моладдзю, расказвае пра дзейнасць КПЗБ і КСМЗБ, пра абарону Ленінграда, пасляваенную адбудову Беларусі. Вельмі дзейсна дапамагае ва ўзбагачэнні каштоўнымі экспанатамі — адозвамі, лістоўкамі, газетамі, кнігамі, дакументамі — музея ў Гезгалаўскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна, Дзятлаўскага музея народнай славы і інш.

— Люблю таксама наведацца да вас, на Беласточчыну, і наогул у Народную Польшчу, — заўважыў Пётр Іосіфавіч ў канцы нашай размовы ў рэдакцыі „Нівы", што адбылася ў пачатку красавіка гэтага года. — Тут у мяне асталіся ўспаміны і пра мясціны, дзе я бываў, і пра людзей, з якімі разам дзейнічаў у падполлі ў міжваенны час. Многія з маіх таварышаў па барацьбе жывуць і актыўна дзейнічаюць: Аляксандра Бергман і Уладзімір Ціхановіч у Варшаве, Вераніка Нічыпорчык — у Беластоку і шэраг іншых. Радуецца маё сэрца, калі я бачу тыя велізарныя пераўтварэнні на гэтай зямлі, што адбыліся тут за часы народнай улады.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара






З глыбіні стагоддзяў зямлёю ад вытокаў Супраслі да Бобры валодалі яцвягі. Аж загінулі з крунтэсам у вайне з суседнімі народамі. Пры падзеле іхняй жылплошчы пераможцамі гэты куток дастаўся Вітаўту. Вялікі князь абмежаваўся засяленнем некалькіх вёсак, уся ж прыдбаная плошча на працягу двух стагоддзяў была бязлюднай пустэчай, суцэльным лясным масівам. Сапраўдным засяленнем заняўся ажно гетман Хадкевіч у канцы пятнаццатага стагоддзя. Прымяняў палітыку Вітаўта: аматарам асваення пушч давалася воля — воля выбару месца пасялення, бестэрміновае звальненне ад данін і падаткаў, а нават прысваенне баярства. Гэта была прывабная перспектыва для прыгнечанай чэрні. І аматараў не забракла. Загаманіла бязлюдная Заблудоўшчына людскімі галасамі, паваліліся пад сякерамі векавыя дубы, сосны, хвоі. На выкарчаваных абшарах зазелянела збожжа, а з комінаў дабротных хат заклубаваў шызы дым, запахла духмяным хлебам, а дзе нядаўна вылі ваўкі і гукалі совы, станоўча закукарэкалі пеўні, пераклікаліся ў брэху сабакі.

Як вянец абжыласці ў цэнтры параскіданых вёсак Хадкевіч пабудаваў у Заблудаве царкву, якая па сённяшні дзень красіць места. Па прыкладу Хадкевіча пайшлі і іншыя магнаты, а ўдзелам караля, які ахопліваў амаль усю Сакольшчыну, занялася ўласнай асобай каралева Бона. Гэта былі ўжо часы канчатковага засялення паяцвяжскіх пушчаў і пачатак канца вольніцы. Зямельная рэформа не была выдумкай каралевы. Узор узяла яна на Захадзе, дзе пануючай сілай быў абсалютызм вяльможаў, які просталюдзінаў спіхаў у жывёльнае становішча. З наданых рэзаў пасяленцаў паплыў у скарбонкі алігархаў вялікі прыбытак. Нядоўга карысталіся воляй і баярскім званнем пасяленцы. Вяльможы не толькі пазбавілі іх уласнасці, але і загналі ў кабалу.




Помнікамі падманнай волі дакументуюцца ў нашых часах назвы вёсак, заснаваных першымі пасяленцамі, нашымі продкамі: Добраволя, Ціхаволя, Новаволя, Сухаволя. „Баярскае" званне захавалася дагэтуль у ваяводскім Беластоку (Баяры — жыллёвы раён Беластока, раней вёска).

У другой палавіне XIX стагоддзя нашых дзядоў-прадзедаў „пацешыў" імператар усяе Расіі другой падманнай воляй — маніфестам, касуючы паншчыну, аджыўшую свой век феадальны, перадаючы з рукі „вольнае" сялянства ў кіпцюры ненаеднага капіталізму. Нашых бацькоў „пацяшалі" і іншыя валадары, пакуль народная сіла не выдварыла іх з нашай зямлі.

Хтосьці скажа: што ты, дзядзька Квас, куралесіш то ўздоўж, то ўпоперак. К чаму ты прыплёў гэту гісторыю? Пляцюг ты! — скажа. А дарма. Многія з нас не ведаюць свайго куточка. Нават пражыўшы ў ім усё сваё жыццё. А ведаць мы павінны. Не ведаючы свайго роду, не палапаешся, хто ты ў сапраўднасці, застанешся „казанскай сіратой", чалавечкам, з месячыка скінутым.

Значыць, трэба ведаць і геаграфію. Вось і пачнем ад яе. Вытокі Свіслачы, Супраслі, Бобры, уся плошча ад Новаволі па Сухаволю ляжыць у цэнтры Еўропы, які нейкі журналіст устанавіў у Сухаволі на рынку (вядома, у самым цэнтры). Але я яму не веру. Дакладна вымераўшы, то трэба было б яго заслупкаваць у Каўпаках, а магчыма і на Мацейкавай гары. Але гэта не так ужо важна з дакладнасцю. Знамянальнае, што наш рэгіён у цэнтры Еўропы. Так што ёсць чым цікавіцца. Тым больш — плошча мала даследавана. Навуковы свет не ведае нават рысаў загінуўшага з крунтэсам народу. А то і не дзіва, бо гэты таямнічы народ чамусьці (во, цікава!) не меў з суседзямі іншай стычнасці, апрача ваеннай. Чаму рэшткі разбітых яцвягаў, якія, хоць у мінімальнай колькасці, мусілі быць мужчынскага роду,

Імпартгумар

## ІНШЫ ЧАС

Слесар-водаправодчык зайшоў да мяне ў кватэру і пачаў корпацца ў сваім куфэрку.
— Вось, — падышоў я да яго.
— Што? — падняў слесар галаву.
— Як што? 3 рублі і 62 капейкі.
— За каго вы мяне прымаеце? Дзе кран?
— Там.
Праз некаторы час кран быў адрамантаваны.
— Вось вам чатыры рублі і 12 капеек.
Але слесар, не гледзячы на маю руку, падышоў да кніжнай паліцы.
— Мапасана і Талстога я бяру, добра? — сказаў ён.
— Д-добра, — разгублена адказаў я.
— І гэта шчанё таксама бяру, — ён палажыў за пазуху майго любімага шчанюка.
— А-а-а... — толькі і сказаў я.
— Іншы час, іншыя запатрабаванні! — адказаў мне дзелавіта слесар. — Калі кран пацячэ, клічце. Прывет!
І зачыніў дзверы.
А я ўсё сціскаў у руцэ 4 рублі і 12 капеек.

**А. Шаўцоў**

### РАЦПРАПАНОВА

У адной арганізацыі аб'явілі паход за эканомію часу. Пачалі з уліку кожнай марна патрачанай мінуты. Рэгістрацыя вялася рэгулярна, кнігі запісаў запаўняліся адна за адной.
Загадчык гаспадаркі доўга назіраў за гэтай справай і на адной з вытворчых нарад папрасіў слова:
— Таварышы! Я зрабіў тут папярэднія разлікі і вось што прапаную: давайце замест уліку страт рабочага часу будзем весці дакладны запіс зробленай работы.
Рацпрапанову адобрылі. Так быў зроблены першы ўзнос у фонд эканоміі.

**Павел Саковіч**



— *Чаго ў спорце не бывае!*

# НІЎКА




— *Уваходзьце, у нас дзень адкрытых дзвярэй.*

### ДРЭННЫЯ СПРАВЫ

— Ну як, дружа, кавалерскія справы?
— Дрэнь. Дзяўчаты дзядзькам называюць.

**3 „Веснiка Задрыпоніі"**

### СВЕТ ТВАІХ ЗАХАПЛЕННЯЎ

Незвычайнае хобі ў студэнта Лайдакевіча — ён наведвае ўсе лекцыі да адной.

### З ВОПЫТУ ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

Гены генамі, а сувязі таксама нешта значаць.

### МІНІВЕРШЫ

**ПАПЛАВОК**

Ён меў адметны нораў,
Пабачыў шмат ён рэк,
азёраў,
Сваёй адвагай выхваляўся,
Хоць даць нырца на дно
баяўся.

**ЦЫГАРЭТЫ**

Яна хвалілася адным:
„Начальству па нутры мой
дым".

**Мікола Мінчанка**

**ЮБІЛЕЙ**

Бібліятэкарка Анютка
Юбілей спраўляе хутка:
Гадоў з дзесятак адшугала,
Як... апошні твор чытала.

**Сцяпан Крываль**

### НА БАЛІ

Гапка да начальніка:
— Калі я з вамі танцую, дык зала здаецца мне пустыняй...
Захоплены партнёр мацней абдымае яе і шэпча:
— Чаму?
— Бо вы танцуеце, як вярблюд.

### ГУМАР З БАРАДОЮ

**ПАЕННЕ**

— Напаіў ты каня?
— Напаіў.
— А чаму ж у яго морда сухая?
— А вады не дастаў!



Задрыпісар гнуў сваю лінію — любы вокліч загібаў у пытанне.

## На шырокім свеце

— Сэр! Малю, толькі адзін фунт! Я з раніцы нічога не еў.
— Я таксама.
— У такім выпадку, дайце два фунты. І павячэраем разам.

*

Пасварыўшыся з Афандзі, жонка яго пайшла да свайго бацькі. Неўзабаве яна вярнулася і папрасіла прабачэння.
— За тое, што ты пайшла да бацькі, я табе прабачаю, — сказаў Афандзі, — а вось за тое, што вярнулася, — ніколі не прабачу!

*

— Няўжо ты не мог трапіць з такой блізкасці па варотах?
— А ці ж з табой гэтага не здаралася?
— Здаралася, але я яшчэ ні разу не трапляў шайбай у гледача.
— Ну і што? Ён жа разам з усімі прасіў: „Шай-бу! Шай-бу!"

### ТУДЫ І НАЗАД

Кастусь успамінае:
— Калі я быў маладым, я не ленаваўся прайсці пешшу пяць вёрст, каб уляпіць аплявуху свайму сапернiку!
— А назад вы таксама ішлі пешшу?
— Не, назад мяне звычайна прывозілі.

*Без слоў*

### АДНА МОЛАДЗЬ

Ідзе стары Іван з клуба. Вось людзі і пытаюць:
— Дзеду, а ці багата народу ў клубе?
— Ды які там народ, — адказвае стары, — адна моладзь!

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

## Takiemu to dobrze

*słowa: M. Łebkowski, S. Werner*
*muzyka: Zbigniew Ciechan*

Do koszar żołnierz szedł przez ulicę,
na skrzyżowaniu stał podoficer.
Sprężyście żołnierz zasalutował...
A co pomyślał? Takie trzy słowa:

Takiemu to dobrze, takiemu to dobrze,
nie staje przed każdym na baczność!
Takiemu to dobrze, takiemu to dobrze,
medalem coraz go odznaczą.
Nikt co chwila go nie pędzi do roboty
i nie biją wciąż na niego siódme poty.
Takiemu to dobrze, takiemu to dobrze,
Takiemu to dobrze, nie to co mnie!

Stał podoficer przy ulic zbiegu
i kaplitana nagle spostrzega.
Honory oddał nasz plutonowy
i taka myśl mu przyszła do głowy:

Takiemu to dobrze, takiemu to dobrze,
kariera się przed nim otwiera!
Takiemu to dobrze, takiemu to dobrze,
przytulna nań czeka kwatera!
Dziewczyn sto go kocha, więc ma w czym wybierać,
bo chce każda mieć za męża oficera.
Takiemu to dobrze,
takiemu to dobrze,
takiemu to dobrze, nie to co mnie!

Wtem czarna wołga się zatrzymała,
samochód przywiózł tu generała.
Zasalutował dziarsko kapitan
i taka myśl mu w głowie zaświta:

Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
szacunek, zaszczyty, powaga...
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
on rządzi, poleca, wymaga...
lat niemało liczy, a jaki sprężysty!
Jak z opinią jego liczy się minister!
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
takiemu to dobrze, nie to co mnie!

A gdy generał do domu zmierzał,
ujrzał dziewczynę, a z nią żołnierza.
Spojrzał spod cieżkich, zmęczonych powiek.
A co pomyślał? No... kto odpowie?



MADE IN ZADRYPANKA

# КУРЁЗЫ

### „ПА ІНСТРУКЦЫІ НАЛЕЖЫЦЦА..."

Вядомы савецкі канферансʼе М. Гаркаві з групай артыстаў чакаў на аэрадроме самалёт. Да яго падыйшоў дзяжурны па палётах і спытаў:
— Грамадзянін, а колькі вы важыце?
— Сто сорак кілаграмаў, — адказаў Гаркаві.
— У нас па інструкцыі на чалавека належыцца толькі 85 кілаграмаў.
— Ну, што ж мне рабіць, наце рэжце лішняе, — паказваючы на свой жывот, жартаўліва сказаў Гаркаві.
— Гэтага дзякунства мы сабе не дазволім, а вось за розніцу дапла́ціце як за багаж, — закончыў размову дзяжурны па палётах.

### ПРЫКМЕТА

Аб вартасці сваіх твораў Мікалай Гоголь судзіў па ўражаннях людзей, не спрактыкаваных у літаратуры.
„Калі яны рассмяюцца, — гаварыў ён, — то, значыць, ужо сапраўды смешна, калі будуць узрушаны, то значыць, ужо сапраўды зварушліва, таму што яны з тым селі слухаць мяне, каб ні за што не смяяцца, каб нічым не расчульвацца, нічым не захапляцца".

### ЗАПІС

Адміністрацыя лонданскага атэля папрасіла французскага гумарыста Сашу Гітры распісацца ў кнізе ганаровых гасцей. Ён прачытаў папярэдні запіс, дзе гаварылася: „Барон дэ Рэзіні са слугой". Ніжэй Гітры напісаў: „Саша Гітры з чамаданам".




**Не бíся галавой аб сцяну: працу будаўнікоў трэба паважаць.**